№21 май 2012

# Настаўнік. info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

## Знаёмцеся: Блог настаўнікаў Беларусі

Шаноўныя сябры!

З прыемнасцю рэкамендуем вам навінку байнэту – «Блог настаўнікаў Беларусі» (*http:// inspiration.blog.tut.by*). Рэсурс створаны групай педагогаў з мэтай аб'яднаць прадметныя блогі беларускіх настаўнікаў, наладзіць паміж імі камунікацыю і падтрымку.

«Быць першымі заўсёды няпроста. Але калі мы разам – перашкоды здаюцца не такімі страшнымі і, спадзяюся, адно ў адным мы знойдзем крыніцу для папаўнення ўласных сілаў», – кажа ініцыятарка Блога Таццяна Пятроўна.

Апрача наўпростай трансляцыі артыкулаў, Блог прапануе наведнікам надзвычай жывы і прыязны форум, на якім можна абмеркаваць дасягненні, падзяліцца навінамі, знайсці супольнае вырашэнне праблемы.

Таксама вы можаце дадаваць свае рэсурсы ў аб'яднаную стужку.

Прапануем вашай увазе невялікі агляд матэрыялаў Блога.

**Не з той сістэмы**

У шкадаванні пра савецкую сістэму адукацыі, яе перавагі, почасту больш эмоцый. Так, тая сістэма давала выдатную фізічна-матэматычную адукацыю – але як быць з усім астатнім?...

**Google робіць падарунак свайму «пакаленню»**

Сумняюся, што ў кагосьці з нашых вучняў (ды і ў калегаў) ёсць рахунак на Google. Людзі апісваюць, як гэта адбывалася ў іх, а я думаю, што для арганізацыі праекта on-line трэба спачатку навучыцца ствараць яго за партамі...

**Тапалогія**

Учора адзін шасцікласнік задаў задачу, над якой суткі без плёну біліся нават «мацёрыя» адзінаццацікласнікі...

**Камп'ютарныя інструменты ў адукацыі**

Чаму б нам не разгледзець тут спіс праграмаў, неабходных для



кожнага настаўніка, незалежна ад таго, які прадмет ён вядзе?...

**Мой прадмет самы важны!**

Настаўнікі-прадметнікі, калі ставяць свой прадмет вышэй за іншыя ў вачах вучняў і бацькоў, часцяком наўмысна прыніжаюць значнасць іншых прадметаў...

**Да пытання пра мову навучання**

На маю думку, калі пачатае навучанне на беларускай мове ў пачатковай школе, трэба працягнуць яго на гэтай жа мове і ў сярэдняй школе...

**Камп'ютар на ўроку**

45 хвілін урока – золата, іх трэба берагчы. Гульнявыя праграмы – дома, з бацькамі...

**Чытаючы Эвэрэта Шострама**

Да настаўніка ставяцца роўна настолькі, наколькі ён гэта дазваляе...

**ЦТ і ЕГЭ: англійская мова, структура**

У працяг тэмы пра ЦТ і ЕГЭ правядзем нескладаны аналіз структуры тэстаў...

*Да абмеркавання гэтых ды іншых тэмаў вы можаце далучыцца на http://inspiration.blog.tut.by.*

*У свеце*

## Навіны адукацыі

- Сярэдняя адукацыя ў Расіі імкліва пагаршаецца. Так, у 2000 г., паводле вынікаў міжнароднага даследавання PISA, Расія была на 27 месцы, у 2003 – на 32, у 2006 – на 37, а ў 2009 – апусцілася на 41 месца. Прагнозы толькі што завершанага даследавання 2012 г. не даюць падставаў для аптымізму. Эксперты бачаць прычыны адставання ў тым, што расійская адукацыя дагэтуль заснаваная на перадачы гатовых ведаў.

- 60 украінскіх настаўнікаў літаратуры падпісалі супольную дэкларацыю аб стварэнні грамадзянскай ініцыятывы супраць новай школьнай праграмы вывучэння сусветнай літаратуры. На думку настаўнікаў, у новай праграме бачны яўны перакос у бок рускай літаратуры: з-за Александра Качаткова або Анатоля Прыстаўкіна выкінуты з падручнікаў Вальтэр Скот, Марк Твэн ды іншыя заходнія класікі. У перспектыве пратэстуючыя настаўнікі збіраюцца стварыць нацыянальную арганізацыю.

- Выхавальніца з Амерыкі Дэана Джамп змагла зарабіць 700 тысяч долараў на продажы сваіх вучэбных планаў і матэрыялаў на анлайн-біржы «Teachers Pay Teachers». Сайт спецыялізуецца на ўроках для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Самыя папулярныя прадметы – англійская мова і літаратура, грамадскія і прыродазнаўчыя навукі, матэматыка. Усяго на сайце зарэгістравана 700 тысяч карыстальнікаў, з якіх дзесяць тысяч прадаюць свае работы. Агульны абарот сайта дасягнуў сямі мільёнаў долараў. Многія ўрокі – бясплатныя, а сярэдні кошт урока складае ад 5 да 10 долараў.

# «Адукацыя для свабоды.

**ПАЛАЖЭННЕ КОНКУРСУ «Адукацыя для свабоды. Ноўтбук актыўнаму настаўніку – 2012»**

*Прыём матэрыялаў да 30 верасня 2012 г.*

Мэты конкурсу: стварэнне новых адукацыйных і дыдактычных матэрыялаў развіццёвай педагогікі, скіраваных на ўзгадаванне свабоднай і творчай асобы, адказнага грамадзяніна і патрыёта Беларусі; іх папулярызацыя, забеспячэнне доступу да іх шырокага кола педагогаў, бацькоў, усіх, хто працуе з дзецьмі і моладдзю.

**НАМІНАЦЫІ КОНКУРСУ**

• Методыка навучання ва ўстановах фармальнай і нефармальнай адукацыі (метадычны дапаможнік);

• Сучасны ўрок (адукацыйны працэс на ўроку: распрацоўка школьных урокаў, факультатыўных заняткаў);

• Грамадзянская адукацыя і нацыянальная культура (адукацыйны праект, даследаванне або майстар-клас, сцэнарый семінара, пазакласных заняткаў; доўгатэрміновая культурніцкая акцыя з адукацыйна-выхаваўчымі мэтамі ды інш.);

• Настаўнік – сям'я – грамадства (адукацыйны праект, супольная сацыяльна-адукацыйная акцыя, даследаванне, праект дзейнасці бацькоўскага камітэта, майстар-клас, апісанне досведу ды інш.);

• Электронны адукацыйна-выхаваўчы рэсурс (сайт / блог / рассылка / googlegroup / LJ-супольнасць / група сацыяльнай сеткі / інш. педагога, школы, школьнага клуба, гуртка, бацькоўскага камітэта ды інш.) або навучальны фільм, аўдыёдапаможнік, праграмны прадукт ці іншы пераклад у электронную форму навучальна-метадычных матэрыялаў.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна даслаць свае матэрыялы на адрас KonkursNotebook@gmail.com, да якіх далучыць ліст з апісаннем таго, як вашая распрацоўка будзе спрыяць выхаванню свабоднай асобы.

**ПАТРАБАВАННІ ДА МАТЭРЫЯЛАЎ**

1. Адна асоба падае на конкурс не больш за адну работу. Дапускаецца прадстаўленне аўтарскіх работ, якія раней былі дасланыя для сайта, але не ўдзельнічалі ў папярэдніх конкурсах.

2. Заяўка прымаецца толькі пры наяўнасці запоўненага тытульнага ліста, дзе пазначаецца наступная інфармацыя:

• прозвішча і імя аўтара;

• месца працы, хатні, электронны адрасы, кантактны тэлефон;

• намінацыя, на якую прапануецца матэрыял;

• назва матэрыялу, мэтавая аўдыторыя, для якой прапануецца матэрыял (клас, група, іх інтарэсы, матывацыя і г.д.).

3. Старонкі павінны быць прануmараваныя.

4. Тэксты падаюцца ў электронным выглядзе.

5. Мова матэрыялаў – беларуская. Механічныя пераклады пры дапамозе электронных перакладных праграмаў распазнаюцца і выбракоўваюцца.

6. Дадаюцца звесткі пра папярэдняе выпрабаванне на практыцы прапанаванага матэрыялу (калі такі досвед быў).

7. Да матэрыялаў неабходна дадаць ліст з апісаннем таго, як вашая распрацоўка будзе спрыяць выхаванню свабоднай асобы.

Форму заяўкі можна спампаваць з сеціва:

http://www.nastaunik.info/files/f/777_zajauka-notebook-2012.doc

**КРЫТЭРЫІ АЦЭНКІ ПА НАМІНАЦЫЯХ**

**Методыка навучання ва ўстановах фармальнай і нефармальнай адукацыі (метадычны дапаможнік)**

• актуальнасць дапаможніка для настаўнікаў, адукатараў;

• адрозненне ад існых аналагаў як на беларускай, так і на рускай мове;

• адпаведнасць вучэбным праграмам (калі дапаможнік прапануецца для фармальнай адукацыі);

• наяўнасць канцэптуальнай часткі (педагагічнага абгрунтавання методыкі);

• тэхналагічнасць распрацовак;

• магчымасць ужываннння дапаможніка іншымі педагогамі;

• прагноз уплыву на дадатныя змены ў актыўнасці і паводзінах навучэнцаў.

**Сучасны ўрок**

• наяўнасць і якасць метадычнага каментара да ўрока (ідэі і прынцыпы, на якіх будуецца сістэма работы настаўніка; асаблівасці класа, для якога прызначаецца ўрок; выкарыстанне магчымасцяў адукацыйнага асяроддзя (у тым ліку сродкаў масавай інфармацыі), месца ўрока ў тэме – да 2-х старонак);

• арыгінальнасць аўтарскай ідэі;

• дыягнастычнасць, канкрэтнасць і рэалістычнасць навучальных мэтаў;

• аптымальнасць зместу;

• сістэмнасць урока і рацыянальнасць яго структуры;

• фармуляванне задачаў у кантэксце праблем у выхаванні і развіцці вучняў;

• адэкватнасць выбраных формаў, метадаў і сродкаў навучання мэтам і задачам урока;

• магчымасць усталявання партнёрскіх дачыненняў паміж настаўнікамі і вучнямі;

• скіраванасць урока на выхаванне і развіццё вучняў; наяўнасць на ўроку ўмоваў для выбару, для творчай самарэалізацыі вучняў, развіцця крытычнага мыслення, праяўлення грамадзянскай пазіцыі;

• выкарыстанне актыўнай ацэнкі вучнёўскіх дасягненняў;

• адпаведнасць патрабаванням да афармлення тэксту.

Распрацоўкі тэматычных блокаў ці цыклаў урокаў будуць мець перавагу. Да матэрыялаў могуць быць далучаныя відэазапісы ды іншыя прадукты, якія пацвярджаюць эфектыўнасць распрацоўкі.

**Грамадзянская адукацыя і нацыянальная культура**

• адпаведнасць сучасным падыходам да зместу і ролі грамадзянскай адукацыі і нацыянальнага выхавання;

• скіраванасць на развіццё грамадзянскіх і сацыяльных кампетэнцый, фармаванне нацыянальнай свядомасці;

• ужыванне новых адукацыйных тэхналогіяў, якія спрыяюць разбурэнню стэрэатыпаў, развіваюць крытычнае мысленне; падвышаюць самаацэнку вучняў;

• скіраванасць на папулярызацыю дэмакратычных каштоўнасцяў;

• арыентаванасць на сучасныя і перспектыўныя формы бытавання нацыянальнай культуры і мовы;

• рэалістычнасць для здзяйснення.

**Настаўнік – сям'я – грамадства**

• стварэнне новых і перспектыўных формаў сацыялізацыі супольнасцяў дзяцей, бацькоў і педагогаў;

• далучэнне да навучальнага працэсу бацькоў, дзяцей, лакальнай супольнасці, фармаванне супольнага адукацыйнага асяроддзя;

• стварэнне ўмоваў для ўдзелу бацькоў ў вызначэнні шляхоў развіцця адукацыйнай установы;

• скіраванасць на падвышэнне самаацэнкі, мэтанакіраванасці, матываванасці навучэнцаў; дапамога ў фармаванні акрэсленай грамадзянскай пазіцыі;

• скіраванасць на вывучэнне і вырашэнне праблемаў сям'і, грамадства;

• акцэнт на функцыю сям'і як зберагальніка і транслятара нацыянальна-культурных каштоўнасцяў;

• стварэнне ўмоваў для ўзнікнення і дзейнасці бацькоўскіх аб'яднанняў, органаў мясцовай супольнасці.

Перавагу будуць мець: матэрыялы, якія прадугледжваюць адукацыю праз сумесную дзейнасць; метадычныя матэрыялы, якія ўзніклі пры здзяйсненні адукацыйных, даследчых, экалагічных, культурніцкіх, сацыяльных, краязнаўчых, творчых ды іншых праектаў.

**Электронны адукацыйна-выхаваўчы рэсурс**

• запатрабаванасць;

• змястоўнае напаўненне і якасць матэрыялаў;

• актуальнасць;

• для інтэрнэт-рэсурсаў: інтэрактыўнасць інтэрфэйсу (ці ёсць магчымасць зваротнай сувязі, абмеркавання, змяшчэння творчых работ вучняў, настаўнікаў, атрымання кансультацый), тэрмін існавання, колькасць наведнікаў у месяц, частата абнаўлення;

• існаванне або магчымасць падтрымкі асабістых старонак (блогаў) экспертаў, настаўнікаў, вучняў, класаў ці груп;

• эксклюзіўнасць матэрыялу, пераведзенага ў электронную форму;

• зручнасць карыстання інфармацыяй, дызайн.

Сайты-візіткі, камерцыйныя і рэкламныя сайты адукацыйных

# Ноўтбук актыўнаму настаўніку - 2012»

установаў не з’яўляюцца прыярытэтам гэтага конкурсу. Пры прадстаўленні сайта ці іншага інтэрнэт-прадукту для конкурсу будзе вітацца тлумачальная запіска, дзе будзе пазначаная мэта, мэтавая аўдыторыя, статыстычныя дадзеныя ды іншая інфармацыя, якая дапаможа сябрам журы ацаніць рэсурс. Пры іншых роўных умовах перавага будзе аддавацца праектам, дзе эксклюзіўны змест перадаецца пры дапамозе сучаснай тэхнічнай формы.



**ПРЫЗАВЫ ФОНД КОНКУРСУ**

Прызавы фонд конкурсу фармуецца з добраахвотных ахвяраванняў людзей і арганізацый, зацікаўленых у падтрымцы актыўных педагогаў, што прадставяць свае аўтарскія матэрыялы для агульнага карыстання. Папярэдне плануецца ўзнагародзіць 5 аўтараў, матэрыялы якіх будуць прызнаныя найлепшымі, персанальнымі партатыўнымі камп’ютарамі (ноўтбукамі).

**ЖУРЫ КОНКУРСУ**

Журы конкурсу фармуецца з экспертаў – спецыялістаў у кожнай тэме, якія працуюць у сферы фармальнай і нефармальнай адукацыі.

**ТЭРМІНЫ ПРАВЯДЗЕННЯ КОНКУРСУ**

Матэрыялы прымаюцца да 30 верасня 2012 г. у электроннай форме на электронную пошту: KonkursNotebook@gmail.com. Калі аб’ём ці фармат матэрыялаў не дазваляе даслаць іх па электроннай пошце, арганізатары на ваш запыт дашлюць паштовы адрас.

Дасланыя работы будуць размешчаныя ў інтэрнэце на сайце http://nastaunik.info/notebook для агульнага карыстання і абмеркавання. Вынікі аб-меркавання на сайце будуць улічаныя журы.

Гэты конкурс – цалкам грамадскі праект. Гэта значыць, што педагогі і адукатары, якія дашлюць свае распрацоўкі, надаюць права публікаваць іх на сайтах http://nastaunik.info і http://aacenka.by/. Арганізацыі і асобы, якія далучаюцца да фармавання прызавога фонду, і людзі, што захочуць ахвяраваць свой час для арганізацыі конкурсу, не маюць камерцыйных мэтаў і гатовыя працаваць толькі для паляпшэння беларускай адукацыі.

**МАТЭРЫЯЛЫ ПАПЯРЭДНІХ КОНКУРСАЎ**

З матэрыяламі папярэдніх конкурсаў вы можаце пазнаёміцца ў сеціве:

«Адукацыя для свабоды -2011»
http://www.nastaunik.info/news/?id=5627

«Адукацыя для свабоды – 2009»
http://nastaunik.info/note2009

# «Вашая актыўная ацэнка павінна быць беларускай»

*Прафесар Ян Патвароўскі – матэматык, жыве ў Англіі. Працаваў у Brunel University ў Лондане, дзе займаўся, сярод іншага, развіццём адукацыі і дыдактыкай матэматыкі. У апошнія гады ў якасці эксперта ЕС працуе з органамі адукацыі Польшчы, Партугаліі, Літвы і Англіі. Шмат гадоў супрацоўнічае з польскім Цэнтрам грамадзянскай адукацыі (Centrum Edukacji Obywatelskiej).*

*З Янам Патвароўскім гутарыць Тамара Мацкевіч.*

**Т.М.**: Актыўная ацэнка нарадзілася ў Вялікабрытаніі і распаўсюджваецца ва ўсім свеце ад вас. Як ставяцца адукацыйныя чыноўнікі да гэтай методыкі? Ці могуць улады «знішчыць» АА*?

**Я.П.**: Так і здарылася ў Англіі. У Англіі акрэслены ўзроўні, якіх вучні могуць дасягнуць ў пэўным часе. Настаўнік ацэньвае, якага ўзроўню дасягнуў гэты вучань. Калі ўрад мяркуе, што вучань гэтага ўзросту мусіць мець узровень «5а», настаўнікі, чые вучні дасягнулі ніжэйшага ўзроўню, страчваюць свае пазіцыі.

Улады засяроджваюцца на іспытах, тэстах. Тут разыходзяцца шляхі дэмакратычнай АА і недэмакратычных патрабаванняў.



**Т.М.**: Ці залежыць АА ад прадметнага зместу?

**Я.П.**: Не залежыць. Ужываючы АА, можна выкладаць нават Гітлера *(смяецца)*.

**Я.П.**: У АА вельмі важна задаваць пытанні і адказваць на іх. Ці вучні ў беларускіх школах могуць задаваць пытанні?

**Т.М.**: Шмат што змянілася пасля распаду СССР. Паміж настаўнікам і дзецьмі цяпер больш партнёрскія стасункі, чым раней.

Дзеці больш не паддаюцца дыктату.

**Т.М.**: Чаго варта пазбягаць, з улікам польскага досведу АА?

**Я.П.**: Польская сістэма нагляду за школамі ідзе ў тым жа кірунку, што і англійская. Але вы не павінны паўтараць памылкі Захаду. Мая жонка працавала з непаспяховымі школамі Англіі. Даследавала, ці настаўнікі праглядаюць сшыткі вучняў. Выявілася, што яны гэтага не робяць – дык тады адкуль ім ведаць, як іх вучні вучацца?

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта **Nastaunik.info**
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад *200* асобнікаў

Важна, каб кантроль навучання быў унутраны, а не вонкавы.

**Т.М.**: У Беларусі настаўнік не можа даваць разгорнутых каментароў у вучнёўскіх сшытках, як патрабуе АА.

**Я.П.**: Гэта вельмі дзіўна. Але можна гэта рабіць, карыстаючыся запісамі на сцікерах!

**Т.М.**: Якія мэты АА?

**Я.П.**: Адна з мэтаў АА – змяніць мову, стыль, якім кажуць пра навучанне і выкладанне.

Новую педагогіку немагчыма апісваць старымі словамі.

З 1994 года ў калідорах міністэрства пачалі казаць, што адукацыя грае важную ролю ў развіцці кампетэнцыяў. Так склалася, што гэтае пытанне паўстала ў сістэме адукацыі. Моўны стыль змяніўся праз змены ў свядомасці. Настаўнікі часта разумеюць, што робяць не тое, але не ведаюць альтэрнатывы.

**Т.М.**: У Беларусі ў школах мы размаўляем па-руску. Дык наколькі я разумею, мы павінны змяніць яшчэ і саму мову, а не толькі яе стыль.

**Я.П.**: Змяніце рускую мову навучання і ўся Беларусь зменіцца! Іншае важнае пытанне – ключавыя кампетэнцыі. У Польшчы гэтыя кампетэнцыі апісаны бюракратычным стылем. Ёсць тэндэнцыя казаць інакш, але яна яшчэ не прыйшла ў школы. Найлепш гэта бачна на прыкладзе прафесійна-тэхнічных вучэльняў, дзе АА павінна падтрымліваць камунікацыю.

Школы павінны ацэньваць, наколькі іх выпускнікі валодаюць асноўнымі ключавымі кампетэнцыямі.

**Т.М.**: Як гэта зрабіць на практыцы?

**Я.П.**: Можна браць тэсты ў Інтэрнэце, але лепш не калькаваць іншыя сістэмы. Невядома, ці будзе тое, што працуе ў Польшчы, з тым жа плёнам працаваць у вас.

Галоўнае – зважаць на якасць школьнага навучання. Вашая АА павінна быць беларускай.

Ад вашага суайчынніка Выгоцкага ведаю, што актыўная ацэнка – гэта назіранне за навучальным працэсам.

Трэба глядзець, што адбываецца паміж настаўнікам і вучнем, як вучні вучацца… Першыя высновы можна зрабіць ужо праз два гады.

**АА - актыўная ацэнка. З методыкай актыўнай ацэнкі вы можаце пазнаёміцца на сайце http://aacenka.by/*

Пераклад Настаўнік.info паводле:
https://www.ceo.org.pl/pl/sus/news/wasz-ok-powinien-byc-bialoruski